

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***

# НАША СЛОВА





**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 24 (1071) 13 ЧЭРВЕНЯ 2012 г.**


## Арыгінальнае выданне Статута ВКЛ 1588 года вярнулася ў Беларусь!!!



7 чэрвеня 2012 г. у будынку Нацыянальнага гістарычнага музея Беларусі адбылася адна з самых значных падзей гэтага года ў культурна-гістарычным жыцці нашай краіны. Музею гісторыі горада Магілёва ўрачыста перададзена арыгінальнае выданне Статута Вялікага Княства Літоўскага 1588 года. Да нашых дзён у свеце захавалася ўсяго некалькі дзесяткаў экзэмпляраў Статута, аднак у Беларусі не было ні аднаго з іх. І вось Статут вярнуўся на радзіму.

Ва ўрачыстасці прыняў удзел міністр культуры Рэспублікі Беларусь Павел Латушка, старшыня Федэральнай аўтаноміі беларусаў у Расіі Валеры Казакоў, намеснік дырэктара Нацыянальнага гістарычнага музея Беларусі Ніна Калымага, дырэктар па карпаратыўных камунікацыях кампаніі Alpari Валеры Тарасаў, дырэктар музея гісторыі горада Магілёва Аляксей Бацюкоў.

Міністр культуры Павел Латушка адзначыў, што ў гэтым годзе на вяртанне гістарычных і культурных каштоўнасцяў дзяржавай выдзелена дзесяць мільярдаў рублёў. Ужо набыта 179 розных экспанатаў. Нядаўна ў Беларусь вернуты чатыры слуцкія паясы. І вось чарговы здабытак.

Статут ВКЛ 1588 года набыты на электронным аўкцыёне за 45 000 даляраў. Знайшоў гэты лот на аўкцыёне студэнт Андрэй Радкоў, які і паведаміў пра знаходку дырэктару музея гісторыі горада Магілёва Аляксею Бацюкову. Прадпрымальнік Уладзімір Мардачоў дапамог з першым грашовым унёскам. Грошы на выкуп Статута ВКЛ сабралі літаральна за два тыдні.

Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588 года ўяўляе сабой вышэйшае дасягненне старабеларускай прававой думкі, якое паўплывала на культурна-гістарычныя і юрыдычныя традыцыі краін Еўропы. Статут з'яўляецца не толькі дакументам, але і помнікам вышэйшага культурнага значэння.

- Для нас вялікі гонар аказаць пасільную дапамогу братняй дзяржаве, рэальная магчымасць вярнуць у Беларусь значымую гістарычна-культурную каштоўнасць, - адзначыў Валеры Тарасаў, дырэктар па карпаратыўных камунікацыях кампаніі Alpari.

Валеры Казакоў, адзначыўшы, што і ён, і Валеры Тарасаў, з Магілёўшчыны, сказаў, што кожны беларус павінен старацца для сваёй Беларусі сабраць усе яе каштоўнасці, хто што зможа.

Аляксей Бацюкоў прыняў Статут з рук В. Тарасава і сказаў, што музей гісторыі горада Магілёва з гонарам будзе захоўваць гістарычную каштоўнасць і пастараецца годна прадставіць яе наведвальнікам.

Знамянальна, што гэта падзея адбылася ў год кнігі, абвешчаны ў нашай краіне.

9 чэрвеня прэзентацыя выкупленага ў Расіі асобніка Статута Вялікага Княства Літоўскага адбылася ў Магілёве у гарадской ратушы, дзе ён і будзе захоўвацца.

У залу паседжанняў ратушы паглядзець на рэліквію прыйшло больш за паўсотні магілёўцаў. Дырэктар музея гісторыі Магілёва Аляксей Бацюкоў, звяртаючыся да грамады, адзначыў:

- Магчымасць выкупіць Статут з'явілася дзякуючы таму, што была вялікая грамадская падтрымка...

Удзячнасць грамадскасці за дапамогу ў выкупе Статута выказваў на прэзентацыі і гісторык Зміцер Яцкевіч. Ён ездзіў у Маскву, каб праўдзіць, ці сапраўдны экзэмпляр. Паводле гісторыка, у Расіі выкуплены асобнік Статута апынуўся падчас вайны ў сярэдзіне XVII стагоддзя. Ім валодалі князь Крапоткін-Смаленскі, потым архіяпіскап Пераяслаўска-Разанскі. У 1839 годзе яго перадалі ў Разанскую духоўную семінарыю.

- Менавіта тады быў зроблены пераплёт гэтага выдання, таму ён такі няўдалы. Менавіта тады быў зроблены надпіс, што ён на беларускай мове. Далейшы яго лёс складаны і цікавы. Калекцыянер не сказаў нам, адкуль ён у яго. Але галоўнае, што ён ёсць, што ён з намі. Так, як ён быў тут і раней - у гэтай ратушы. І раней магілёўцы карысталіся ім для вырашэння сваіх спраў, - рапавядаў грамадзе З. Яцкевіч.

У рэальнасці на сёння беларусы валодаюць ужо двума асобнікамі Статута. Адзін знаходзіцца ў Беларускай бібліятэцы імя Ф. Скарыны ў Лондане.

***Паводле Міколы Лінніка.***

## 310 гадоў з дня нараджэння Міхала Казіміра Радзівіла “Рыбанькі”



**Міхал Казімір Радзівіл “Рыбанька”** IX ардынат нясвіжскі і алыкскі, вялікі гетман літоўскі, ваявода віленскі нарадзіўся 13 чэрвеня 1702 года ў Алыцы.

Дзяцінства прыпала на крывавыя ваенныя гады, калі бацькі пакінулі ВКЛ. Толькі ў 1709 годзе яны вярнуліся ў Бельскі замак, дзе хлопчыка акружылі хатнія настаўнікі, адзін з якіх ксёндз Цэзар застаўся ў памяці Міхала на ўсё жыццё. У "Дыярыюшы" ён запісаў: *"Усё, што сёння ведаю і ўмею, усё ідзе ад яго інструкцый"*. Дарэчы, нясвіжскі князь вёў дзённік на працягу ўсяго жыцця.

У 1721 годзе князь Міхал накіраваўся ў падарожжа па Еўропе, наведаў дзесяткі гарадоў, каралеўскія двары манархаў. У кастрычніку 1722 года ён прысутнічаў на каранацыі Людовіка XV і пасябраваў з партугальскім каралевічам Эмануэлем. Праз некалькі месяцаў “Рыбанька” спыніўся ў Парыжы, дзе праслухаў цыкл лекцый па матэматыцы, удасканальваў майстэрства коннай язды і фехтавання. Не аднойчы прымаў удзел у паляваннях разам з каралём Людовікам XV.

У 1744 годзе Міхал Казімір Радзівіл атрымаў тытул ваяводы віленскага і булаву вялікага гетмана літоўскага, што дало магчымасць не пакінуць у бядзе Нясвіж, ператорараны ў пустку. Сваёй пастановай ад 26 ліпеня 1724 года ён пацвердзіў гораду даўнейшыя прывілеі сваіх папярэднікаў, дазволіў карыстацца гарадскімі правамі ўсім тым, хто хацеў тут пасяліцца, з гарантыяй поўнай свабоды для ўласнага ўзвышэння.

Міхал Радзівіл “Рыбанька” зрабіў вялікі вычын - аднавіў Нясвіж і замак, узвёў новыя збудаванні. Бязлюдную пустэчу, якую атрымаў у спадчыну, ператварыў у квітнеючы край, працягваючы справу маці, стварыў мануфактуры і рамесніцкія цэхі.

У 1740 годзе ў замку была збудавана капліца і асвечана ў 1758-м, калі сюды быў прывезены абраз Маці Божай, знойдзены пад Венай у 1683 годзе каралём Янам III Сабескім. Пасля смерці караля цудатворны абраз перайшоў да каралевы Марысенькі, а ад яе да сына Якуба, потым па спадчыне трапіў да Радзівілаў.

Першай жонкай князя Гетмана, як часта называлі Міхала Казіміра, была Францішка Уршуля з Вішнявецкіх, высокаадукаваная, таленавітая жанчына свайго часу. Шлюб адбыўся ў 1725 годзе, Па словах У. Сыракомлі, гэтая "набожная і адукаваная пані зрабіла дзейсны ўплыў на свайго мужа ў яго намаганнях адрадзіць Нясвіж. Яна стварыла тэатр, аднавіла работу нясвіжскай друкарні, папоўніла замкавую бібліятэку. На пахаванне жонкі Францішкі Уршулі ў 1753 годзе Міхал Казімір запрасіў шмат святарства, біскупаў, свецкіх сенатараў, шляхты. Замкавыя, кляштарныя і гарадскія муры ледзь змаглі іх змясціць.

У 1754 годзе “Рыбанька” ўзяў шлюб з Ганнай Мыцельскай, якая была ўдавой пасля смерці Леана Міхала Радзівіла.

Ганна Людвіка Караліна Кунегунда (1729-1771) нарадзілася ў сям'і познанскага кашталяна Мацея Мыцельскага. Гэты шлюб выклікаў незадавальненне старэйшага сына нясвіжскага князя Караля Станіслава "Пане Каханку", але пазней адносіны паміж ім і Ганнай былі добрымі. Калі ў 1764 годзе "Пане Каханку" выехаў у эміграцыю, Ганна таксама пакінула Нясвіж, каб шукаць дапамогі пасынку сярод каралеўскіх двароў Еўропы.

Князь Міхал Казімір “Рыбанька” памёр у 1762 годзе і пахаваны ў радзівілаўскай крыпце.

## ВЯЧАСЛАВУ РАГОЙШУ -70



**Вячаслаў Пятровіч Рагойша** нарадзіўся 5 чэрвеня 1942 году ў в. Ракаў Валожынскага раёна Менскай вобласці у сялянскай сям'і.

Скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт па спецыяльнасці "Беларуская мова і літаратура" (1963).

Доктар філалагічных навук. Прафесар. Загадчык кафедры тэорыі літаратуры Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Акадэмік Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі. Сябра вучонай рады філалагічнага факультэта БДУ і вучонай рады Нацыянальнага навукова-асветніцкага цэнтра імя Ф. Скарыны пры Міністэрстве адукацыі.

Старшыня Міжнароднага фонду Янкі Купалы (з 1996 году). Арганізатар міжнароднай навуковой канферэнцыі "Ракаўскія чытанні" (з 1996 году).

Тэма кандыдацкай дысертацыі: "Паэтыка Максіма Танка: Культура вобраза. Характар верша" (1967). Тэма доктарскай дысертацыі: "Беларуская паэзія 20 стагоддзя ў кантэксце ўсходнеславянскіх літаратур: Тыпалогія, рэцэпцыя, мастацкі пераклад".

Аўтар звыш, чым 800 навуковых публікацыяў і даследаванняў па гісторыі і тэорыі беларускай літаратуры, беларуска-славянскіх літаратурных узаемасувязяў, па вершазнаўстве, праблемах тэорыі і практыкі мастацкага перакладу, паэтыцы літаратурнага твору, з якіх амаль 300 - асноўныя навуковыя працы, у тым ліку 16 манаграфіяў. Першым дасканала даследаваў рукапісы Янкі Купалы і знайшоў падчас гэтай працы дзясятак новых твораў беларускага класіка.


ISSN 2073-7033





25.06 панядзелак у 17.30-19.00
у рамках праграмы "Будзьма!"
**“Праблемы беларускай рэстаўрацыі”.**
Сустрэча з канд. гіст. навук А. Трусавым.
Адказная А. Анісім.
Уваход вольны.

# Карыятыда, якая падтрымлівае неба Беларушчыны



Гісторыя захавала імёны славутых жанчын, якія зрабілі значны ўнёсак у развіццё сусветнай цывілізацыі. Але шмат годных, непрыкметных на першы погляд жанок, ва ўсе часы стваралі і ствараюць гарманічнае асяроддзе для развіцця грамадства ў праявах штодзённага жыцця, ахвяруючы ўласным дабрабытам, пакідаючы свой адметны след на зямлі.

Да такіх неардынарных асоб можна залічыць і нашу юбілярку - Людвіку Станіславаўну Таўгень, старшыню Валожынскай суполкі ТБМ. Яна паходзіць з дому слыннага на Івянеччыне роду - Лямбовічаў, які спрадвеку вылучаўся сваёй набожнасцю, нацыянальным гонарам, краёвым патрыятызмам, а таксама талентамі, россыпы якіх зоркамі зіхацяць не толькі на малой Радзіме, але і па ўсёй Беларусі і замежжы.

Людвіська нарадзілася 19 чэрвеня 1957 года ў шматдзетнай сям'і Станіслава і Станіславы Лямбовічаў у вёсачцы Пілюжына, што месціцца на ўскрайку маляўнічай Налібоцкай пушчы. Пасля заканчэння Педагагічнага інстытута імя Горкага выкладала беларускую мову і літаратуру ў школах на Валожыншчыне і ўжо шмат гадоў плённа працуе ў гімназіі №1 г. Валожына.

Як настаўніца, яна прывівае вучням любоў да роднай мовы, сее зярняткі духоўнай культуры, парасткі якіх налівающца патрыятызмам і самасвядомасцю, што вельмі актуальна ў наш цемрашальскаманкуратны час. Яе асветналінгвістычныя артыкулы ў раёнцы "Працоўная слава" знаходзяць водгук у роздуме чытачоў аб сучаснасці, а дабрачынная дзейнасць па навучанні і катэхізацыі дзетак пры касцёле св. Юзафа - застаюцца ў сэрцах і душах вернікаў на ўсё жыццё.

Самаахвярная грамадзянская пазіцыя Людвікі Таўгень з'яўляецца эталонам служэння ідэалам нацыянальнага Адраджэння. Неабыякавасць да радыкальных зменаў у постсавецкім грамадстве прывяло яе ў аргкамітэт па стварэнні Беларускай каталіцкай грамады. Як дэлегат ад Валожыншчыны ўдзельнічала ва ўстаноўчым з'ездзе БНФ у Вільні. Брала актыўны ўдзел па арганізацыі суполак ТБМ, БДГ, БНФ у рэгіёне. Дзякуючы яе ініцыятыве, разам з Марыяй Трапашкай, была створана дзейсная падтрымка айцу Уладзіславу Чарняўскаму па ўкараненні беларускіх спеваў пры касцёле Святой Марыі ў Вішневе.

Яна - актыўны заўзятар шматлікіх імпрэз, якія ладзіліся ў гонар землякоў: В. Дуніна-Марцінкевіча, Старога Уласа, Канстанцыі Буйло, Пятра Бітэля, Генадзя Равінскага, Вячаслава Рагойшы і іншых…

Нельга абмінуць увагай і крэўнае дачыненне спадарыні Людвікі да Заслужанага аматарскага фальклорнага калектыву "Гасцінец". Воляй лёсу і абставін тры яе сястры - Алеся, Лізавета і Хрысціна апынуліся ў Ракаве і здзейснілі культуралагічны праект - заснавалі тры народныя гурты: "Гасцінец", "Вянок" і асабіста сямейны - "Крону", у якім спяваюць, музыцыруюць і танчаць трынаццаць прадстаўнікоў роду, у тым ліку і Людвіка з дачуркай Лізаветай.

Адкуль жа гэткая прага да глыбінных адвечных вытокаў? Мабыць, гэта генетычны покліч продкаў. Дарэчы, іх прадзед Кліменцій Лямбовіч, знатны музыка і адмысловы майстар па вырабу музычных інструментаў, выштукаваў у 1901 г. арган, за што быў адзначаны бронзавым медалём за ўдзел у юбілейнай сельскагаспадарчай і кустарнапрамысловай выставе ў Менску, аб чым нагадвае пасведчанне, якое экспануецца ў Івянецкім музеі традыцыйнай культуры…

Спадарыня Людвіка адносіцца да кагорты сучасніц, якія як жрыцы з паганскіх часоў, як міфічная карыятыда антычнасці, трымаюць Неба Беларушчыны, упрыгожваюць свет сваім існаваннем і годна сцвярджаюць, што Беларусь яшчэ жыве і жыць будзе бясконца, пакуль мацізямелька нараджае такіх дачок.

*Алег Раманоўскі.*

---



Грамадскае аб'яднанне
"Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"
220034, г. Мінск вул. Румянцава, 13, тэл. 213-43-52, 284-85-11, разліковы рахунак № 3015741233011 у аддз. №539 ААТ Белінвестбанка", г. Мінска, код 739

*4 чэрвеня 2012 г. №36*

Міністру адукацыі Рэспублікі Беларусь
прафесару МАСКЕВІЧУ С.А.
220010, Мінск,
вул. Савецкая, 9

**Паважаны Сяргей Аляксандравіч!**

Падчас нядаўняга візіту ў Полацк Кіраўнік нашай дзяржавы яшчэ раз пацвердзіў права кожнага вучня вывучаць гісторыю па-беларуску, нават калі ён вучыцца ў рускамоўнай школе. Аднак, не так усё проста з навучаннем на роднай мове, нават у школах з беларускамоўным навучаннем.

Днямі ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" атрымала адказ з Вашага міністэрства на наш чарговы ліст, у якім, у поўнай адпаведнасці са Статутам нашага грамадскага аб'яднання, мы паставілі пытанні аб фактах дыскрымінацыйнага стаўлення да вучняў беларускамоўных сярэдніх навучальных установаў у справе забеспячэння гэтых вучняў падручнікамі і іншымі навучальнымі дапаможнікамі. У сваім лісце, у прыватнасці, мы звярталі ўвагу на тое, што ў гандлёвай сетцы адсутнічаюць шмат якія найменні абавязковай для вучняў вучэбнай літаратуры, выдадзенай на дзяржаўнай беларускай мове.

Адказ, які прыйшоў нам за подпісам Вашага намесніка К.С. Фарыно, толькі часткова высвеьліў сітуацыю, але ні ў якім разе не паказаў шляху вырашэння пастаўленых у нашых папярэдніх лістах праблем.

Так, К.С. Фарыно зноў паабяцаў, што падручнік па інфарматыцы для 6 класа II ступені сярэдняй школы на беларускай мове будзе выдадзены "згодна з планам" у 2014 годзе, але дзе ўзяць такі падручнік тым вучням, што прыйдуць у шостыя класы ў бягучым і ў наступным навучальным годзе, ён так і не патлумачыў.

Ваш паважаны намеснік напісаў таксама, што з 2009 года ў серыі "Школьная бібліятэка" былі выдадзеныя на беларускай мове тры кнігі замежных аўтараў (наяўнасць другой з пададзеных ім назваў, дарэчы, не пацвярджаецца каталогам Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі). Паводле нашых падлікаў, у дзейнай "Вучэбнай праграме па беларускай літаратуры для V-XI класаў агульнаадукацыйных устаноў" (Мн., 2010) прадугледжваецца вывучэнне на беларускай мове або чытанне ў якасці твораў для пазакласнага чытання больш за сорак твораў трыццаці васьмі замежных аўтараў. Калі ў "Школьнай бібліятэцы" будзе выходзіць у сярэднім па адной такой кнізе штогод, як Вы разумееце, выданне гэтых кніг расцягнецца аж на сорак з лішкам гадоў! Між тым, выданне ў названай серыі твораў праграмнай рускай літаратуры і замежнай літаратуры ў перакладах на рускую мову ідзе хуткімі тэмпамі, хоць у беларускіх кнігарнях гэтай літаратуры хапае, а ў букіністычных крамах цудоўныя выданні праграмных твораў Пушкіна, Цютчава, Лермантава, Талстога, Гогаля, Дастаеўскага, Буніна і іншых можна купіць па вельмі нізкіх коштах - вельмі часта таннней за творы беларускай літаратуры і, тым больш, за творы сусветнай літаратуры, перакладзеныя на беларускую мову.

Ваш намеснік К.С. Фарыно, акрамя таго, у дадатку да свайго ліста падае спіс з дзесяці пазіцый - атласаў па дысцыпліне "Чалавек і свет", па геаграфіі і па сусветнай гісторыі, выдадзеных у апошнія тры гады на беларускай мове. Але тыя бацькі, што звярталіся па дапамогу ў наша Таварыства, сведчаць, што ў гандлёвай сетцы з гэтых дзесяці пазіцый з'яўляліся толькі атлас па дысцыпліне "Чалавек і свет" і "Атлас па сусветнай гісторыі XIX-пачатку XX ст." (апошні нейкі час быў у наяўнасці толькі ў адной краме "Адукацыя" ў горадзе Мінску). Спадар Фарыно нават не абяцае, што ў прыншыпе з'явяцца беларускамоўныя контурныя карты па геаграфіі і сусветнай гісторыі, не кажучы ўжо пра працоўныя сшыткі па большасці дысцыплін школьнай праграмы. Можна здагадвацца, што запланаваны пераход на электронныя версіі падручнікаў для сярэдняй школы можа ў выніку прывесці да яшчэ большай дыскрымінацыі беларускай мовы.

На жаль, атрымаўшы два лісты ад Вашага намесніка па сутнасці пастаўленай намі праблемы, мы можам паведаміць бацькам дзяцей беларускамоўных школ і класаў вельмі мала канкрэтнай інфармацыі, дзе і калі яны змогуць набыць вучэбныя дапаможнікі, якіх патрабуюць адказныя педагогі ад іхіх дзяцей.

У сувязі з вышэйсказаным, мы прапануем сустрэцца з Вамі ў падыходзячы для Вас час, каб разам абмеркаваць наспелыя пытанні.

З павагай,
Старшыня ТБМ А.А.Трусаў.

---

Міністру адукацыі Рэспублікі Беларусь
прафесару МАСКЕВІЧУ С.А.
220010, Мінск,
вул. Савецкая, 9

Паважаны Міністр і супрацоўнікі Міністэрства!

Звяртаюся да Вас з такой нагоды. Я беларуска і грамадзянка Беларусі вельмі заклапочана тым, што адбываецца ў нашай краіне з роднай мовай. Беларуская мова вельмі хутка знікае.

Вядома, што знікненне мовы народа вядзе і да знікнення самога народа.

Мой муж - Лазарук Міхал Арсеньевіч (яго ўжо няма), доктар філалагічных навук - 50 год свайго жыцця аддаў справе народнай асветы, шмат зрабіў у галіне філалагічнай адукацыі ў школе. Пад яго прозвішчам і пасля смерці выдаюцца падручнікі па беларускай літаратуры. Але каму яны будуць патрэбныя, калі не патрэбная родная мова?

Ведаю, што нядаўна прайшла прэс-канферэнцыя па пытаннях праблем сярэдняй школы, адной з якіх (праблем) з'яўляецца стан беларускай мовы ў сярэдняй школе, дзе большасць прадметаў выкладаецца пераважна па-расейску.

Вы, шаноўны Сяргей Аляксандравіч, разумееце да чаго вядзе русіфікацыя школы, стараецеся, каб прыпыніць гэты працэс, лічыце, што выратаванне мовы трэба пачынаць са школы, і як першы крок прапануеце перавесці выкладанне гісторыі і геаграфіі Беларусі ў школах на беларускую мову. Але не ўсе Вашыя калегі згодныя з гэтай прапановай. Яны сцвярджаюць, што для гэтага працэсу не хапае грошай. Але гэта не сур'ёзна, бо такое пытанне як лёс краіны, які непасрэдна залежыць ад сістэмы адукацыі і ў першую чаргу ад школы, нельга пералічваць на грошы. Бо каго ж будзе выхоўваць наша школа? Людзей, якія не ведаюць роднай мовы, не любяць яе і з пагардай да яе адносяцца? Не любіць родную, матчыну мову - гэта тое ж самае, што не любіць сваю маці, свой край і народ, адрачыся ад усяго роднага. Тады школа будзе выхоўваць не грамадзян - патрыётаў сваёй Радзімы, а манкуртаў з замбіранымі мазгамі, якія нічога не хочуць помніць, ведаць, і ўсе жаданні якіх - толькі смачна паесці і мець паболей грошай любымі сродкамі.

*Т.К. Лазарук, удава доктара філалагічных навук, прафесара, акадэміка.*

---

***Павел Сцяцко***

## *Мовазнаўчы досвед*

***Ткалля, ткачыха.*** *"Наша брыгада змагаецца за права насіць імя лётчыка-касманаўта СССР Валянціны Церашковай: яна ж таксама была **ткалляй**"* (Дзеяслоў. 2011. № 2. С. 31).

Слоўнікі падаюць першае слова як стылёва зніжанае, з паметай "размоўнае", а нарматыўным – аднакаранёвае з суфіксам *-ых-(а)*, хоць утварэнні з *-іха/ -ыха* маюць значэнне 'жонка названай асобы'. Параўнайце назву п'есы "Лявоніха на арбіце". Значэнне *ж* 'асоба жаночага полу' перадаецца ў беларускай мове фармантам ***-ка**: аўтарка, кандуктарка, паэтка* і пад. Сістэмным тут магло быць *ткачка.* У жывой народнай мове выкарыстоўваецца суфікс ***-ля.*** З дапамогаю яго ўтвараюцца асабовыя назоўнікі ад дзеяслоўнай асновы*: ткаць - ткаля, прасці - праля* 'палрадуха' і *праць - праля* 'прачка', *равець - равеля, бегаць – бегля* 'бягунка', *піскля* 'піскуха'. У гаворках усходу Беларусі (Віцебшчына, Магілёўшчына) выступае доўгі гук [л'], які абазначаецца падвеннем літары (*-лл-я*): *пралля, ткалля* (больш падрабязна гл. у кнізе П.У. Сцяцко. Беларускае народнае словаўтварэнне. – Мінск, 1977. – 320 с. Стар. 53 – 54).

Варыянтам суфікса ***-ля*** выступае ***-ул-я (-улл-я)***. *"Маме споўнілася 70! Курносай крывічанцы з вёскі Вераб'і, галасістай **пявуллі** і танцорцы, якая фліртавала з Прытыцкім і без памяці любіла свайго бацьку"* (Дзеяслоў. 2011. № 2. С. 129). Суфікс ***-уля*** таксама ўтварае асабовыя назоўнікі жаночага роду: *ткаць - ткуля* і *ткулля* (Віцебшчына), *фарсіць - фарсуля, хрыпець - хрыпуля, смаргаць - смаргуля, пяяць - пявуля, хадзіць - хадуля* і інш. (гл. П.У. Сцяцко. Беларускае народнае словаўтварэнне. – Мінск, 1977. – 320 с. Стар. 67 – 68).

***Іншапланетнік, іншапланецянін.*** *"Гаварыў пераважна я, а мой візаві – ні жывы ні мёртвы, нібы палена сядзела перада мною ці які **іншапланетнік**"* (Дзеяслоў. 2011. № 2. С. 136).

Пазаслоўнікавае *іншапланетнік* – складанасуфіксавае ўтварэнне з прадуктыўным фармантам ***-нік**: інша-а-планет-нік,* у слоўнікавым фармант ***– янін**: інш-а-планет-янін - іншапланецянін.*

***Астабрыдзець.*** *"**Астабрыдла** лазіць па хлеб у кантэйнер ..."* (Дзеяслоў. 2011. № 2. С. 132). Пазаслоўнікавае *астабрыдзець* – нова-ўтварэнне, на ўзор рас. *осточертеть.* "Русско-белорусский словарь" 1993 г. (Т. 2, с. 372) фіксуе адпаведнікамі згаданага расейскага складанага слова (ад *сто чертей)* простыя беларускія дзеясловы з коранем ***-брыд-**: абрыдзець, абрыдаць, абрыднуць.*

# Даўнія і сучасныя адзінкі вымярэнняў

У Менску ў выдавецтве "Адукацыя і выхаванне" толькі што выйшла навукова-папулярнае даведачнае выданне "Адзінкі вымярэнняў: даўнія і сучасныя". Аўтар Барыс Сымон Вікенцьевіч. Рэдактар В. Шчэрба. Дызайн вокладкі У. Малаха.

У прадмове доктара гістарычных навук, члена-карэспандэнт НАН Беларусі А.І. Лакоткі гаворыцца:

*"Кніга "Даўнія і сучасныя адзінкі вымярэнняў" магла быць складзена, падрыхтавана і выдадзена выдавецтвам "Беларуская энцыклапедыя імя Петруся Броўкі". Але атрымалася так, што яе напісаў настаўнік па адукацыі, пісьменнік, журналіст, які працуе больш за 20 гадоў у рэдакцыях навукова-метадычных часопісаў. Таму і кніга падрыхтавана да друку і выдадзена выдавецтвам "Адукацыя і выхаванне".*

*Кніга "Даўнія і сучасныя адзінкі вымярэнняў" - добры даведнік для вучняў і настаўнікаў. Яна незвычайная па складзе змешчаных у ёй артыкулаў. Можа нават спрэчная, бо складаная па сваёй структуры, як і складанае ўсё наша жыццё. Тут даецца вялікі дадатак, але ён па тэме. Здаецца, у кнізе сабрана ўсё: гістарычнае і сучаснае, геаграфічнае і біялагічнае, астранамічнае і ваеннае, у ёй даецца хрэстаматыйны матэрыял па рэдкіх галінах ведаў: ад македонскай фалангі да сучаснага ракетнага дывізіёна, ад рымскага соліда да сучаснага еўра, ад майянскага календара да сусветнага вечнага календара. Ёсць тут і беларускі народны каляндар. З цікавасцю чытаецца артыкул "Хрысціянскае летазлічэнне і каляндар". Мяне здзівіла, што ў гэту кнігу трапілі дзве метадычныя распрацоўкі для настаўнікаў - гэта ўрок у пятым класе "Асаблівасці лічэння гадоў у гісторыі" і пазакласнае мерапрыемства "Міфічныя лікі ў гісторыі". Апошняе мяне захапляе. У ім выкарыстаны беларускі фальклор і міфалогія Бібліі. Напісана вельмі займальна.*

*Складці такі даведнік, разлічаны на педагогаў, мог толькі настаўнік гісторыі. Гэта зрабіў Сымон Барыс - этнограф, журналіст, якога я ведаю з 1978 года. Беларускімі і рускімі мерамі ён захапіўся яшчэ тады, калі быў навуковым супрацоўнікам і потым загадчыкам навукова-экспазіцыйнага аддзела Беларускага дзяржаўнага музея народнага дойлідства і побыту. Дзесяць гадоў ён збіраў экспанаты для гэтага музея па ўсёй Беларусі. Запісваў і народныя меры, а таму кніга будзе карыснай і для музейных работнікаў. Яго праца ў школе, у педагагічным інстытуце і ў рэдакцыі педагагічных выданняў паспрыяла таму, што кніга разлічана на настаўнікаў і школьнікаў.*

*Сымон Барыс - аўтар і ўкладальнік гэтай кнігі. У ёй выкарыстаны і пазначаны матэрыялы мінскага складальніка вечнага календара В.С. Маладцова і магілёўскага выкладчыка І.І. Ліхарава. І ўсё гэта ўпісваецца ў змест кнігі. Даведнік такога кшталту друкуецца на беларускай мове ўпершыню..."*

Як і чаму напісана гэтая кніга? Аўтар сам адказване на гэтае пытанне:

*"... Адбылося гэта так. Каля 30 гадоў таму, калі я працаваў у Беларускім дзяржаўным музеі народнага дойлідства і побыту, я зрабіў для сябе невялікія нататкі пра даўнія беларускія і рускія меры, а таксама і пра грошы. Такі матэрыял мне спатрэбіўся тады для работы. Запісы захаваліся. Пазней, калі я працаваў у рэдакцыі, я зацікавіўся і календаром. На працягу некалькі гадоў я надрукаваў у "Беларускім гістарычным часопісе" два артыкулы пра даўнія меры і адзін пра каляндар нашых продкаў. Артыкул "Меры гістарычныя" быў напісаны па заказе выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя" і змешчаны ў пятым томе "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі" (Мн., 1999). Невялікі артыкул пра нашы нацыянальныя грошы атрымалася надрукаваць у штотыднёвіку "Наша слова". Такім чынам, напісанне кнігі-даведніка не планавалася, яна склалася з асобных артыкулаў, надрукаваных у розных выданнях.*

*Аднойчы гады тры таму маладыя настаўнікі нагадалі галоўнаму рэдактару "Беларускага гістарычнага часопіса" Васілю Кушнеру, што неабходна новая публікацыя кароткага даведніка пра даўнія меры. Іх пажаданне было перказана мне. Васіль Кушнер прапанаваў або зноў надрукаваць даведку пра даўнія меры ў часопісе, або выдаць невялікую брашурку, бо інфармацыі ўжо дастаткова. Так нарадзілася ідэя кнігі.*

*У 2009 годзе неабходная кніга была напісана, і яе змест абмеркаваны ў выдавецтве "Адукацыя і выхаванне". Там намеснік дырэктара Я.М. Важнік абмежавала памер кнігі двумя раздзеламі: "Меры" і "Каляндар". Калі ж я паказаў кнігу дырэктару выдавецтва М.А. Супрановічу, дык ён нават настаяў, каб кніга-даведнік пра меры і каляндар утрымлівала значна больш інфармацыі: "Пішы ўсё, што можаш. Можна і пра грошы, і пра вайсковыя адзінкі. Бяры шырэй. Калі напісаў пра грошы, а чаму пра падаткі і штрафы нічога няма?" І сапраўды, чаму не напісаць, калі выдавец хоча?! Так было коратка расказана пра гісторыю падаткаў і штрафаў. У выніку такога стаўлення дырэктара выдавецтва да кнігі я змог павялічыць дадатак да яе амаль у два разы і даказаць, што ён будзе карысны ў школе. Даведачная літаратура заўсёды спатрэбіцца настаўніку. А па майянскаму гараскопу, які я змясціў у дадатку, вылічыў, што у 2010 годзе ўсё мной падрыхтаванае да друку пойдзе ў свет. Так і здарылася..."*

**Змест кнігі:**

Табліца множання.

**Меры (раздзел)**

Метрычная сістэма мер.
З гісторыі мер.
Адвольныя меры на Беларусі.
Адзінкі лічэння.
Меры і прылады для лічэння.
Беларускія меры.
Ганчарная сістэма мер.
Расійскія меры XVIII - XIX стст.
Расійскія меры, якія бытавалі на Беларусі ў XIX - пачатку XX стст.
Метрычныя меры ў параўнанні з рускімі.
Англа-амерыканскія меры ў параўнанні з метрычнымі.
Англійскія меры даўжыні ў суадносінах з метрычнымі мерамі.
Табліца пераводу англійскіх мер у метрычную сістэму мер.
Суадносіны метрычных мер з амерыканскімі (ЗША).
Старажытныя меры розных народаў.
Вымярэнне тэмпературы.
Тэхнічныя меры.
Загартоўка сталі.
Вымярэнне работы і энергіі.
Адзінкі вымярэння электраэнергіі.
Камп'ютарныя меры.
Міжнародныя фарматы паперы.
Міжнародная шкала ядзерных падзей. Шкала INES.

**Каляндар (раздзел)**

Вымярэнне часу.
Часавыя паясы.
Розніца ў часе паміж краінамі.
Астранамічныя звесткі каляндара.
Асаблівасці лічэння гадоў у гісторыі.
Сусветная інтэграцыя мер і Беларусь.
Хрысціянскае летазлічэнне і каляндар.
Беларускі народны каляндар.
Каляндар В. С. Маладцова.
Вечны каляндар.
Святочныя (нерабочыя) дні ў Беларусі на пачатку XXI стагоддзя.
Дзяржаўныя святы і прафесіянальныя дні ў Рэспубліцы Беларусь.
Міжнародныя і сусветныя дні.
Рэформа календара і сусветны каляндар.
Вечны месячны каляндар.

**Грошы (раздзел)**

Нацыянальныя грошы.
Грошы ў дарэвалюцыйнай Расіі.
Падаткі. Штрафы.
Грошы старажытных і сярэднявяковых дзяржаў Еўропы
Грашовыя адзінкі некаторых дзяржаў.
Ацэнка каштоўных металаў.
Гандлёвыя коды краін.
Міфічныя лікі ў гісторыі.

**Вайсковыя меры (раздзел)**

Вайсковыя меры ў Еўропе ў розны час.
Марскія (флоцкія) вымярэнні.
Першая сусветная вайна. Ваенная кампанія 1916 года.
Структура нямецкай арміі 1939 года.
Страты ў выніку сусветных войнаў.
Агульныя прынцыпы іерархіі воінскіх фарміраванняў Савецкай Арміі.

**Дадатак**

Вялікія рэлігійныя святы народаў Беларусі.
Вялікдзень.
Як вылічыць Вялікдзень?
Вылічэнне дня тыдня па формулах.
Праваслаўны каляндар.
Каталіцкі каляндар.
Лютэранскі каляндар.
Мусульманскі каляндар.
Яўрэйскі каляндар.
Знакі астранамічнага і астралагічныя.
Усходні гараскоп і кітайскі каляндар.
Майянскі гараскоп.
Тайны характару ў залежнасці ад дня нараджэння.
Дні нараджэння людзей і іх ахоўнікі-дрэвы.
Стараславянская нумарацыя.
Рымскія лічбы.
Лічбы майя.
Арабскія лічбы.
Летазлічэнні.
Хроніка ўводзін грыгарыянскага календара ў некаторых краінах свету.
Хуткасці руху.
Колькі гадоў яны жывуць?
Хроніка землетрасенняў у Беларусі.
Буйныя землетрасенні ў свеце.
Памеры дзяржаў, бліжэйшых ад Беларусі.
Часткі свету (кантыненты).
Колькасць і шчыльнасць насельніцтва Беларусі.
Вынікі перапісу насельніцтва Беларусі.
Буйныя гарады Беларусі.
Біялагічны гадзіннік.
Вясельныя юбілеі.
Памеры адзення і абутку.
Меры, вес и монеты 1907 года.
Расстояние между городами Российской империи (1907 год).
Пачатак дарог Беларусі. Адлегласці ад Мінска да некаторых гарадоў.
Табліца адлегласцей паміж гарадамі.
Паштовыя індэксы гарадоў Беларусі.
Тэлефонныя коды гарадоў Беларусі.
Міжнародныя тэлефонныя коды краін СНД, Балтыі і Польшчы.
Тэлефонныя коды гарадоў Расіі.
Міжнародныя тэлефонныя коды сталічных гарадоў свету.
В. С. Маладцоў. Усе календары на XXI стагоддзе.
Слоўнік тэрмінаў і паняццяў.
Простыя лікі.
Узвядзенне ў ступень.

*Наш кар.*

# Тэкст Канвенцыі з пачуццём нацыянальнай талерантнасці

Офіс па правах асобаў з інваліднасцю, які працуе на працягу года ў Менску, ініцыяваў конкурс перакладу на беларускую мову Канвенцыі па правах інвалідаў.

Да конкурса праявілі вялікую цікавасць прафесійныя перакладчыкі, знаўцы беларускай мовы з Інстытута беларускай мовы і літаратуры імя Я. Коласа і Я. Купалы НАН РБ, выкладчыкі БДУ, студэнты Інстытута журналістыкі, аспіранты ВНУ, супрацоўнікі рэспубліканскага друку.

Усяго ў моўным спаборніцтве ўзялі ўдзел 62 чалавекі з Менска, Вільні, Полацка, Кобрына, Баранавічаў, Ліды і Жупранаў. Шырокае прадстаўніцтва ўдзельнікаў конкурса сведчыць пра актуальнасць дадзенай тэмы для грамадства. Падвядзенне вынікаў адбылося 10 красавіка ў галерэі "Ў".

Для многіх удзельнікаў гэта быў не проста тэхнічны пераклад, а спроба пераасэнсаваць змест сусветнага падыходу да правоў інвалідаў. Гэта крок да таго, каб Беларусь наблізілася да прыняцця Канвенцыі.

- Пераклад такога дакумента важны для культуры і самiх людзей,- зазначыў філолаг Аляксей Шэін. - Паколькі ёсць мова, ёсць дзяржава, гэты дакумент, як і шэраг іншых, неабходны для беларускага грамадства. Кожная мова з'яўляецца выразнікам жыцця народа. У нашым народзе здаўна закладзена пачуццё талерантнасці, суперажывання чужому болю, стаўленне да чалавека як да Божага стварэння.

Журы конкурсу, якое ўзначальвала дацэнт кафедры сучаснай беларускай мовы БДУ, кандыдат філалагічных навук Анжаліка Садоўская, падвяло вынікі. Журы ўлічвала пісьменнасць і спецыфіку беларускага навуковага тэксту, асаблівасці юрыдычнай тэрміналогіі. Пераможцам стала маладая спецыялістка Марына Каліноўская, юрыст-консульт Беларускай асацыяцыі дапамогі дзецям-інвалідам і маладым інвалідам. Менавіта ёй будзе даручана выканаць увесь пераклад тэкста Канвенцыі на беларускую мову.

- Праца над перакладам для мяне была адказным крокам. Канвенцыя падаецца мне важнай. Напачатку года, калі я планавала сваю дзейнасць, то мне трапілі словы прарока Ісаі з Бібліі: "Каб чалавек быў даражэйшым за чыстае золата ". Змест Канвенцыі блізкі да гэтых словаў. Спадзяюся, што мне хопіць сіл зрабіць дастойны пераклад дакумента, - зазначыла спадарыня Марына.

М. Каліноўскай - 29 год, яна атрымала адукацыю юрыста ў БДУ, удасканальвала свае веды ў магістратуры ў г. Брэмэне. Зараз яна працуе ў моладзевай арганізацыі, якая апякуецца дзецьмі-інвалідамі і маладымі інвалідамі. Пераможца конкурсу атрымала ў падарунак ноўтбук.

*Э. Дзвінская.*

# Развагі і адкрыцці саракагадовага шчаслівага эгаіста

У апошнія гады сацыёлагі адзначаюць, што ў свядомасці жыхароў Беларусі з найбольшых каштоўнасцей чалавека катэгорыя "асабістае здароўе" з восьмага-шостага месца (у савецкія гады) паступова, але няўхільна перамяшчаецца ў тройку лідараў. Гэта ўскосна сведчыць і пра тое, што людзі пачалі надаваць больш увагі стану свайго арганізму. А значыць, іх сталі больш цікавіць звесткі пра медыцыну і ўсё, што з ёю звязана. Аднак, калі для медыкаў-спецыялістаў яшчэ тое-сёе выдаецца, то для шырокіх колаў грамадства нейкіх папулярных і пісьменных твораў пра здароўе - амаль нічога. А на беларускай мове - і пагатоў. Таму з'яўленне "Малой мэдычнай энцыкляпедыі Бахарэвіча" нельга было не заўважыць.

Праўда, адразу насцярожвае і інтрыгуе змест анатацыі гэтай энцыклапедыі. Аказваецца, яна - *"антынавуковае выданьне для шырокага кола дактароў-самавучак"*, якое адрозніваецца ад іншых энцыклапедый такога кшталту *"тым, што яна трактуе найважнейшыя мэдыка-біялагічныя, клінічныя і мэдыка-сацыяльныя праблемы з пазыцый чалавека, якому тэрмінова патрэбная мэдычная дапамога і які гэтую дапамогу катэгарычна адхіляе*".

Трэба адзначыць, што падабенства гэтага выдання з іншымі энцыклапедыямі толькі адно: яго артыкулы, ці артыкульчыкі (па Бахарэвічу) размешчаны ў алфавітным парадку. За выключэннем першага - "Сьмерць". Ён - як аўтарская прадмова. Зрэшты, называць іх артыкуламі не зусім выпадае. Чытач не знойдзе ў іх звычайных для агульных і спецыяльных энцыклапедый звестак. Такіх як прычыны ўзнікнення і развіцця той ці іншай хваробы або парушэнняў функцый арганізму, іх прыкмет, вызначэння змен у здароўі, прагнозу зыходаў, прынцыпаў лекавання. І нават пасля прачытання аўтарскай прадмовы не знікае, а толькі ўмацоўваецца пытанне: як і чаму гэты падвержаны страху "хваравітай ўвагі да мармытаньня ўласнага арганізму" (стар.14) "шчасьлівы ідыёт" (гэтак ён сам сябе называе), які ненавідзіць дактароў і медагляды, грэбліва ставіцца да "руплівых пацыентаў", вырашыў вызначаць і асвятляць актуальныя пытанні сучаснай медыцыны?

У Бахарэвіча загаловак (вызначальнае слова) артыкула зусім не азначае, што ніжэй, як і належыць энцыклапедыі, будуць паслядоўна выкладзеныя адносна поўныя і канкрэтныя звесткі па адпаведнай тэме. Для аўтара часцей за ўсё гэта толькі нагода для выкладання асабістых думак, разважанняў на вызначаную тэму, або нават магчымасць уключыць у кніжку апавяданне, у якім падобная тэма аказваецца другараднай (напрыклад, артыкул "O.R. V. I.", стар. 177). Ён і не дужа збіраўся заглыбляцца ў таямніцы медыцыны - гэтай найстаражытнейшай і найскладанейшай нават на сённяшні дзень галіны дзейнасці чалавека. Для Бахарэвіча, па вызначэнні аўтара прадмовы А. Лукашука, "медыцына… - пачуццё, хвароба - сутыкненьне арганізму з часам. Цела - гісторыя тэксту."

Да гонару Бахарэвіча, які наважыўся неяк разабрацца ў перанасычанай мудрагелістымі тэрмінамі медыцыне - гэтай паўнавуцы і паўмастацтве, - ён зусім не злоўжывае яе тэрмінамі: скарыстоўвае іх толькі ў загалоўках (назвах) артыкулаў. Бо добра вядома, што менавіта незразумелыя тэрміны адпужваюць абывацеля ад прывабнай і цікавай для яго тэмы. Іншая справа - ці знойдзе ён у кніжцы тое, што яго заклапочвае і цікавіць.

У артыкуле-прадмове "Сьмерць" аўтар выказвае свае погляды. Перакананні, думкі пра жыццё ўвогуле і сучаснае ў прыватнасці, адкрыта паведамляе пра сваё стаўленне да жыцця. Пэўна, каб вызначыцца на далейшае. З яго разважанняў вынікае, што быць счаслівым - гэта быць самім сабою. З падобнай высновай няма сэнсу спрачацца. Але вось пытанне: у якіх варунках? Дзе і калі? Ці заўсёды?

У кніжцы шмат параўнанняў і супастаўленяў. Часам арыгінальных, з гумарам і здзекам над сабою, а часам і над чытачом, трапных і дакладных, ад якіх міжволі паглядзіш на сябе ці на якую-небудзь жыццёвую з'яву зусім іншымі вачыма; часам - дужа спрэчных, павярхоўных, якія адразу выклікаюць пачуццё непрыняцця, адарвання. Часам гэтыя паралелі-параўнанні наўмысна разнастайныя і шырокія.

Асабліва спрэчныя сцвярджэнні і меркаванні аўтара, калі да іх ставіцца сур'ёзна, знаходзяцца ў артыкуле "Курэньне". Вось як гэты артыкул пачынаецца: "Пакрысе становіцца зразумела, што абвешчаная ва ўсім сьвеце вайна супраць курэньня ня ёсць насамрэч вайной за здароўе чалавецтва (?!). Усё значна складаней: гэтае змаганьне - частка вялікай вайны дзьвюх культураў. Вайны нябачнай, але бязьлітаснай... Надышоў час сказаць колькі словаў у абарону гнанай адусюль заганы" (стар.139).

І далей вядзецца суцэльная "абарона" не толькі гэтай заганы, але і самога сябе, "беднага жывога курца", сваёй неацэннай асобы. Так, згаджаецца аўтар, "курэньне робіць жыцьцё карацейшым", але "хіба працягласьць жыцьця ёсць нейкай абсалютнай каштоўнасьцю?" "Значна важнейшай - сцвярджае ён, - ёсьць якасьць жыцьця, а не ягоная працягласьць."

Заява досыць неразважлівая. Бо ўжо адносна даўно сацыёлагі, медыкі ды іншыя аўтарытэтныя спецыялісты пагадзіліся і прышлі да кансэнсусу: кожнаму чалавеку трэба імкнуцца да актыўнага, якаснага і плённага працяглага жыцця. Здаецца, няма нагоды для спрэчак. Аднак аўтару карціць знайсці "аргументы" на карысць курэння.

"Курэньне разбурае арганізм. - у чарговы раз згаджаецца ён, - дорыць нам небяспечныя хваробы, ... замінаючы такім чынам самарэалізацыі. Чаму ж у такім выпадку, - задаецца ён пытаннем, - большасць людзей якіх варта паважаць за тое, што яны зрабілі ... чаму пераважная большасць з іх курыла?" (стар. 141). Адкуль і з чаго аўтар узяў, што такіх паважаных дзеячаў была "большасць" ды яшчэ "пераважная"? На якой падставе? Толькі таму, што яму так гэтага вельмі хочацца? Але Бахарэвіч з апломбам заяўляе, што калі б яны не курылі, то "ніколі ня зьдзейснілі таго, што зьдзейсьнілі".

Адчуваючы хісткасць падобных сцвярджэнняў, ён з абурэннем адзначае: "Ніхто ня кажа пра станоўчыя бакі такой "дэманічнай" зьявы, як курэнне". Ніхто і не скажа. Таму што на працягу чатырох стагоддзяў аб'ектыўна вызначана і даказана, што акрамя прычыненя шкоды яго арганізму нічога станоўчага курэнне чалавеку не прыносіць. У аўтара, канешне ж, на гэты кошт свае асабістыя, адрозныя ад агульнапрынятых, меркаванні: "А між тым яно, курэньне, супакойвае... расслабляе... дапамагае... здымае... і дапамагае..." выказванне сваіх чыста суб'ектыўных "станоўчых бакоў" курэння аўтар завяршыў не менш эфектнай, чым вышэй, пафаснай пярлінай: "Наколькі больш неабдуманых учынкаў было б зроблена ў свеце, калі б не курэньне!.." (стар.141).

Пакінем у баку іншыя сентэнцыі аўтара, якія не маюць прамога дачынення да тэмы гаворкі і ніколі не ставіліся пад сумнеў разважлівымі людзьмі. Кшталту: курцы цікавыя сваімі чалавечымі асаблівасцямі. Несумненна, бо кожны чалавек - асоба, унікальны, цікавы менавіта сваёй індывідуальнасцю. Або Бахарэвіча абураюць метады нашай медыцынскай прапаганды. Мяне - таксама. Усялякая прапаганда па разуменні, якое існуе сярод нашага чыноўніцкага люду (уздзеянне), раздражняе і абурае вельмі многіх, на каго яна распаўсюджваецца. Народу ж патрэбна не прапаганда, а належная (пісьменная) медыцынская асвета, якая нікому нічога не навязвае. Праўда, вынікі падобнай асветы будуць бачны не хутка, праз дзесяцігоддзі. "Мы маем справу з культам здароўя, - падсумоўвае аўтар свае развагі пра медыцынскую прапаганду, - такім самым небясьпечным, як і любы іншы культ". (стар. 145). Што ж, і гэтая заўвага наконт культу слушная. Як вядома, усё добра, што ў меру.

Аднак галоўныя галаслоўныя пярліны-аргументы аўтара на карысць "станоўчых бакоў" курэння наперадзе. А яны такія: "курэньне - гэта малая выспачка незалежнасці ў свеце...", "Людзі, якія паляць, радзей пакутуюць на комплекс уласнае непаўнавартасьці." (стар.141), "Курэньне - гэта задавальненьне. І ўжо ў гэтым ягоны вялікі плюс." (стар.142), "Культура курцоў... - культура індывідуальнай асобы... культура анархічная і вельмі гуманістычная..." (стар.145). Хай усе гэтыя сцвярджэнні і заявы застануцца на сумленні аўтара.

А далей пачынаецца, што называецца, высвятленне адносінаў. "Калі курэц курыць на самоце ці ў кампаніі такіх жа "пагарджаных век" маргіналаў - ніхто не мае права пазбаўляць яго гэтага выбару," - папераджае Бахарэвіч (стар.142). і яшчэ: "... нашае (курцоў) жыцьцё ўсё ж належыць нам. Ніхто не пражыве яго за нас, ніхто ня мае права забраць яго ў нас. Калі мы становімся дарослымі, мы самі вырашаем, што рабіць з нашым жыцьцём..."(стар.143).

А хто з гэтым спрачаецца? Як кажуць, "на здароўе" - рабіце са сваім асабістым жыццём усё, што вам заўгодна. Яно - вашае. Толькі было б вельмі добра, каб курцы рабілі гэта менавіта "ў самоце ці ў сваёй кампаніі". Але яны чамусьці заўсёды намагаюцца ператварыць" у сваю кампанію" ўвесь белы свет без рэшты. Як быццам самі яны, курцы, жывуць не ў грамадзянскай суполцы, дзе ёсць усялякія людзі, а ў вакууме. Як быццам некурцы не маюць такое ж, як і яны, курцы, абсалютнае права распараджацца сваім асабістым жыццём і здароўем па сваім разуменні. А яны, некурцы, не жадаюць з-за эгаізму і нахабства актыўных курцоў гвалтоўна псаваць сабе жыццё і ператварацца ў пасіўных курцоў, набываюы такім чынам іхнія хваробы і заганныя звычкі. Чаму нехта (а такіх пакуль яшчэ большасць) павінен улічваць прымхі курца і пагаджацца з імі, а ён, курэц, законныя жаданні супольнасці хоча і можа ігнараваць? Што гэта, як не адкрыты агрэсіўны і нахабны эгаізм з боку курца? Таму здаўна і вядзецца і не сціхае гэтая вайна паміж нахабнымі эгаістамі курцамі і некурцамі, якія надзелены тымі ж правамі і абавязкамі, што і курцы. І гэтая вайна за права быць здаровым чалавекам будзе весціся бясконца.

"Я не лічу курэньне карысным і бяскрыўдным. Жыць добра і без курэньня. Курэньне сапраўды забівае. - у заключэнне ўсё ж нарэшце згаджаецца аўтар. - ... але калі ўжо вы курыце - рабіце гэта з задавальненьнем і годнасьцю.. вы не злачынца..."(стар.147). Даводзіцца толькі да гэтага дадаць: "не злачынца" да той пары, пакуль не спакусіцеся на годнасць іншых, якія побач з вамі.

Пры ўсёй сваёй нянавісці да практычнай медыцыны, што не дзіўна, гэты майстар прыгожага пісьменства выявіў велізарную дасведчанасць у гісторыі медыцыны, выказаў цікавасць да псіхааналітыкі. Зрэшты, ён часткова прасвятляе гісторыю развіцця медыцыны, пра што шараговаму абывацелю пэўна нічога не вядома. Разам з тым у кніжцы Бахарэвіч часам паведамляе і пра малавядомыя факты з гісторыі медыцыны. Аднак зрэдку дапускае недакладнасці. Так, у артыкуле "Шаленства" ён сцвярджае: "Менавіта Пастэр, утаймоўнік сібірскай язвы і халеры,.."(277), што чыстая няпраўда. Калі ўжо каго і лічыць "утаймоўнікам" гэтых хвароб, дык толькі Роберта Коха, які выявіў іх узбуджальнікаў і вызначыў іхняе эпідэміялагічнае значэнне адпаведна ў 1876 і 1883-1884 гг.

У артыкуле "Прафесійныя хваробы" таксама не абыходзіцца без галаслоўных і вельмі спрэчных заяў. Да прыкладу. Такіх: "Бясьпечных прафесій няма. Д'ябальская закамернасць... чым больш плённа працуеш, тым хутчэй разьвіваюцца твае прафесійныя хваробы футбалістаў, рок-музыкаў, настаўнікаў, журналістаў і, канешне ж, пісьменнікаў. Пэўна, па сваім разуменні. І сапраўды, вельмі блізка да ісціны, медыцынскай. Няма жадання пярэчыць наконт таго, што "літаратура, аднак, адзіны від чалавечае дзейнасьці, дзе наяўнасьць прафесійных хваробаў (па Бахаравічу, гэта - манія велічы і нарцысізм) - адначасова і неабходная ўмова працы." (стар. 203). Аўтару, літаратару, у сваім асяроддзі лепш відаць. Хаця манію велічы і нарцысізм сучасныя спецыялісты не разглядаюць як хваробы, а толькі як праявы адхілення і скажэння псіхікі.

Ніякіх прэтэнзій не выклікае артыкул "Сухоты", у якім зроблена параўнальнае апісанне жыцця двух хворых на сухоты пісьменнікаў, Кафкі і М. Багдановіча, з адначасовым кароткім і адносна дакладным адзначэннем асноўных этапаў доследаў вучоных у вызначэнні прычынаў узнікнення гэтай цяжкай і небяспечнай хваробы і вынаходніцтва спосабаў і сродкаў яе дыягностыкі і лячэння. Але артыкул "Старасць" пакідае ўражанне, што ў Бахарэвіча яшчэ засталіся дзіцячыя непасрэднасць і нецярплівасць, не затух юнацкі запал супярэчання, катэгарычнасці і ўласцівае гэтаму перыяду жыцця верхаглядства. Пэўна, было б карысней для ўсіх, у першую чаргу для самога аўтара, каб ён узяўся за раскрыццё падобнай тэмы праз гадкоў гэтак 20-30, калі сам стане хаця б пажылым.

З яшчэ большай прыязнасцю і згодай, чым артыкул "Сухоты", успрымаецца артыкул "Урынатэрапія". Да таго ж пра гэта наўрад ці прачытаеш у якім-небудзь падручніку "афіцыйнай" медыцыны ці адказнай энцыклапедыі акрамя энцыклапедыі Бахарэвіча. Бо ў гэтым артыкуле гаворка вядзецца пра нашыя, чалавечыя, дурноты, якія рэгулярна праяўляюцца і збываюцца ўжо на працягу не аднаго стагоддзя.

Сваімі творамі Бахарэвіч прывабны для тых, каго цікавіць чужая думка на тое. што хвалюе іх саміх. Думка хай сабе і парадаксальная, спрэчная і нават непрымальная. Але яна пабуджае і прымушае да нейкіх высноў і рашэнняў. У гэтай сваёй апошняй кніжцы Бахарэвіч паўстаў перад чытачом у самых розных іпастасях: нястрымнага аптыміста і пахмурнага фаталіста, бессаромнага эгаіста і адказнага грамадзяніна, бесклапотнага юнака і ўдумлівага сур'ёзнага мужчыны. Зразумела, што асабіста сам ён не такі, крыху іншы. Здаецца, што ён больш суцэльны і мэтанакіраваны, чым абазначыў сябе ў кнізе. А ўсе гэтыя мастацкія выбрыкі-выкрунтасы скіраваныя на тое. каб звярнуць увагу чытача на сваё асабістае жыццё, не столькі біялагічнае, Колькі сацыяльнае, крытычна паставіцца да самаго сябе і ўсяго навокал.

*Генадзь Шэршань.*

# Радыё Свабода прэзэнтавала "Слоўнік Свабоды"




У менскай кнігарні "ЛогвінаЎ" адбылася прэзэнтацыя кнігі "Слоўнік Свабоды", якая выйшла ў серыі "Бібліятэка Свабоды". Гэта другое выданне кнігі, якая выйшла да 10-годдзя серыі.

Распачынаючы імпрэзу, рэдактар Радыё Свабода і аўтар ідэі выдання кніжнай серыі "Бібліятэка Свабоды" Аляксандар Лукашук зрабіў кароткую прэзентацыю бібліятэчнай серыі. А менавіта - нагадаў пра пераклад на ангельскую мову першага тому серыі - "Верш на Свабоду", зроблены вядомай ангельскай паэткай Верай Рыч. Пра кнігу аднаго рэпартажу, зробленай журналістамі Радыё Свабода і змешчанай пад вокладкай "Дарога праз Курапаты", пра кнігу змагання за свабоду - "Плошча" і многія іншыя. Асаблівае слова Аляксандр Лукашук прысвяціў Васілю Быкаву:

- Быкаў - адзін з галоўных аўтараў і галасоў гэтай бібліятэкі. Ён прысутнічае як тэкст, і як голас, і як фотаздымкі. Некалі ён казаў: "Надвячоркам кожнага дня я ўключаю прыймач і шукаю "Свабоду". Гэта сталася звычаем і патрэбай душы". Гэта вельмі важныя і дарагія словы для нас, якія мы заўсёды памятаем, калі робім перадачы.

У гэтыя дні ў кнігарні "Логвінава" дзень за днём адбываюцца сустрэчы з аўтарамі і чытачамі нашай бібліятэкі. Ад нас многія бралі ўдзел у розных перадачах, некаторыя маюць свае кнігі. Кніга, якой мы вырашылі адзначыць 10-годдзе "Бібліятэкі Свабоды" - гэта кніга, якая, пэўна, мелася быць не юбілейнай 35-кнігай, а першай. Бо насамрэч, гэтая кніга прагучала ў эфіры ў 1999 годзе і называлася "Слова дня". Кожны дзень у эфіры гучала кароткае слова, якое было важнае для гісторыі, для падзеяў XX стагоддзя. Тады часопіс "Архэ" вырашыў прысвяціць гэтай перадачы цэлы выпуск часопіса. І вось цяпер мы вырашылі прысвяціць юбілею, вярнуцца да гэтай перадачы і выдаць гэтую кнігу".

"Слоўнік Свабоды" - гэта міні-эсэ знакавых словаў XX-XXI стагоддзяў, напісаныя знакамітымі літаратарамі, мовазнаўцамі, журналістамі, у тым ліку - журналістамі Радыё Свабода.

*Наш кар.*

